

№ 10 (123)
Сакавік 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





*Усю зіму стаіць у леташніх лістах дуб. Да новай маладой лістоты... Калі прыйдзе вясна*

*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

### Нашы віншаванні



**«Краязнаўчая газета» па-сяброўску шчыра віншуе вядомага краязнаўца з Віцебшчыны Мікалая Васільевіча Півавара з паспяховаю абаронай кандыдацкай дысертацыі на тэму «Развіццё гістарычнага краязнаўства ў Беларусі ў 1961–1991 гг. (на прыкладзе грамадскага і школьнага накірунку)».**

**Абарона адбылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце 22 лютага 2006 года.**

***Віншуем усіх краязнаўцаў з 80-й гадавінай І Краязнаўчага з'езда!***

***Жадаем плённай працы па зберажэнні нашых самых каштоўных скарбаў: мовы, народнай культуры, цудоўнай прыроды.***



*«Няма ў чалавека нічога прыгажэйшага і даражэйшага за Радзіму. Чалавек без Радзімы – жабрак».*

*Якуб Колас*

# Наш ухіл – краязнаўчы

***Я маю амаль 40 гадоў педагагічнага стажу. Увесь час працаваў у сельскагаспадарчых тэхнікумах: Гродзенскім, Ваўкавыскім, Ільянскім. Быў выкладчыкам і класным кіраўніком, загадчыкам аддзялення, завучам, дырэктарам – да педагогікі, такім чынам, меў самае непасрэднае дачыненне. Выхад на пенсію ненадоўга перарваў гэтыя стасункі, таму што неўзабаве мяне запрасілі на працу ў Ільянскую сярэднюю школу і прапанавалі заняцца гурткамі – у школе ведалі пра мае хобі: краязнаўства, лясная скульптура, разьба па дрэве.***

Тым часам школа афіцыйна набыла краязнаўчы ўхіл і трэба было ўсяму педкалектыву падтрымліваць гэты статус і развіваць яго. Спатрэбіліся новыя гурткі. Мы пачалі з вучнямі рабіць скульптуры з дрэва і дэманстраваць іх на выставах. Некаторыя нашы вырабы размясціліся ў калідорах школы і ў класных пакоях. А яшчэ і некаторыя народныя ўмельцы Ільяншчыны пажадалі паказаць свае вырабы вучням, запрашаючы іх смялей займацца народнымі рамёствамі – яны ж упрыгожваюць наша жыццё, робяць яго больш паўнацэнным. Да таго ж, і краязнаўства садзейнічае гэтаму.

У школе краязнаўству аддаецца шмат клопатаў: збіраюцца экспанаты для школьнага музея, запісваюцца ўспаміны мясцовых жыхароў, арганізуюцца экскурсіі і паходы, вучні і настаўнікі ўдзельнічаюць у разнастайных конкурсах, у тым ліку і рэспубліканскіх, дзе ўдаецца займаць вядучыя пазіцыі. Распрацаваны намі краязнаўчы маршрут «Ільянскія далягляды» быў прызнаны лепшым на Міжнародным конкурсе «Дзень Зямлі – 2004» у Мінску.

Многія вучні ахвотна і з цікавасцю займаюцца ў гуртках, вучацца пісаць тэксты краязнаўчай тэматыкі і нават друкуюцца ў рэгіянальных перыядычных выданнях. З мэтай яшчэ большага зацікаўлення вучняў літаратурна-краязнаўчай справай стварылі школьнае выдавецтва «Ільянскія далягляды», і цяпер тут друкуецца часопіс «Васілёк», пачалі выходзіць першыя кніжкі школьных аўтараў. Усё гэта павінна станоўча ўплываць на іх вучобу і далейшыя жыццёвыя шляхі.

Нядаўна нашы школьныя краязнаўцы правялі літаратурна-краязнаўчую канферэнцыю «Незабыўная пані Эмілія». Канферэнцыя была прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніцы і мастачкі Эміліі Кунавіч. Яна ў 30-я гады мінулага стагоддзя працавала настаўніцай у Ільі, мела перадавы светапогляд, незвычайныя педагагічныя здольнасці, займалася краязнаўствам і пакінула тут аб сабе добрую памяць.

А яшчэ да гэтага ў школе ўспаміналі пра нашага знакамітага земляка Ігнацыя Ходзьку. Яго імя зараз носіць адна з вуліц г. Вілейкі. Мерапрыемства, праведзенае ў яго гонар, сабрала шмат слухачоў і было цікавым.

У школе шануецца імя нашага выпускніка, сусветнавядомага вучонага – педагога Адама Антонавіча Грымаця. Ён у 1955 годзе закончыў школу з залатым медалём, а потым і Мінскі педінстытут з адзнакай. Працаваў настаўнікам, дырэктарам школы, вучыўся ў аспірантуры. Працуючы над дысертацыяй, Адам Антонавіч не пакідаў у баку краязнаўства: хіба можна было фарміраваць станоўчыя маральныя ідэалы ў вучняў без ведання гісторыі роднага краю, сваёй Бацькаўшчыны?! Шырокім быў дыяпазон навуковых інтарэсаў А.А. Грымаця. Глыбокая эрудыцыя і разуменне праблем адукацыі зрабілі яго адным з самых вядомых беларускіх педагогаў. Яму было прысвоена высокае званне прафесара, ён быў абраны правадзейным членам Акадэміі навук Беларусі, удастоены звання «Заслужаны работнік адукацыі». Ільянская агульнаадукацыйная сярэдняя школа з краязнаўчым ухілам цяпер носіць імя А.А.Грымаця. Мы ганарымся славутым земляком.

У школьных краязнаўцаў заўсёды шмат спраў. Трэба ладзіць новыя сустрэчы, зноў збірацца ў паходы і экскурсіі, удзельнічаць у новых конкурсах і выставах, пісаць цікавыя тэксты. Усё гэта дапамагае лепш праводзіць выхаваўчую работу, арганізоўваць вучэбны працэс. Шматбакова развіваць інтарэсы дзяцей, стымулюючы іх разумовую дзейнасць і ўмела заахвочваць – важнейшыя задачы педкалектыву школы.

Настаўнікі ўвесь час павышаюць сваю кваліфікацыю, актыўна ўдзельнічаюць у творчых прафесійных конкурсах і асабіста творчы парыў перадаюць сваім вучням. Станоўчы прыклад паказваюць усе нашы педагогі, асабліва Роза Канстанцінаўна Шэрая, Іван Іосіфавіч Філіповіч, Святлана Іванаўна Міхалькевіч, Люцыя Францаўна Маркевіч, Алена Вячаславаўна Шачыкава, Іван Іванавіч Міхалькевіч, Лілія Рышардаўна Тумашэвіч, Валянціна Арцёмаўна Ерашонак, Алена Мікалаеўна і Пётр Уладзіміравіч Міхалёнкі, Аксана Аляксееўна Шушкевіч, Жанна Станіславаўна Суднікові ч. А патрэбную дапамогу ды слушныя заўвагі мы атрымоўваем ад Ігара Аляксандравіча Юшко, дырэктара школы.

Асабіста мне вельмі хочацца выразаць з вучнямі прыгожыя скульптуры і напісаць грунтоўнае краязнаўчае эсэ пра нашу лясную старонку.

*Уладзімір КАЖАМЯКА, кіраўнік гуртка Ільянскай СШ з краязнаўчым ухілам імя А.А. Грымаця*





*Ліст у «КГ»*

## Працяг тэмы зніклых вёсак

Паважаны Уладзімір, мяне вельмі ўсхваляваў Ваш водгук на артыкул М. Шуканава «Жывуць у памяці Зямлянкі» і сам артыкул. Яны ўскалыхнулі глыбокія стрункі маёй душы і прымусілі адгукнуцца ўспамінамі свайго дзяцінства і юнацтва.

Мая вёсачка Лапуны была ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці. Стаяла на пагорку, і адсюль былі бачны іншыя вёскі: Заходы, Бялянкі, Цыганяты, Леваны, Сілкі, Воранава. Усе былі невялікія, хат па 10–12. Адлегласць паміж вёскамі складала не больш за 5 км. Вёскі былі падобны да купінаў сярод паплавоў і балацін, зарослых лазова-альховым кустоем. Ні рэчкі, ні возера, апроч невялікіх ручаёў. Але якім мілым быў гэты родны кут, зямля маіх дзядоў і прадзедаў!

У гэтых Лапунах (не ведаю, чаму вёску так назвалі) я нарадзілася. Гадавалася ў дзеда Мішкі з бабуляй Храсінняй (бацькі жылі ў Віцебску). З вясковымі дзецьмі аблазіла ўсе пагоркі з суніцамі, усе сажалкі і сады, у гушчары якіх хавалася вёска. Гулялі ў лапту, хованкі, пераганялкі і інш. Не забывала я Лапуны і тады, калі ўжо вучылася ў інстытуце, часта наведвалася да сваіх старэнькіх дзядулі і бабулі, якія мяне вельмі любілі. З мясцовай моладдзю хадзіла на вячоркі. Памятаю, што яны па чарзе наладжваліся ў якой-небудзь вёсцы, куды прыходзіла моладзь з усіх суседніх. На вячоркі і дадому ішлі з песнямі. А песні ж народныя, мілагучныя, яны сапраўды «самі ў сэрца прасіліся». Ды і танцы былі разнастайныя: кадрыля, полечка, вальс, танга, кракавяк і нават руская «Барыня». Вячоркі віхурылі да самага ранку. І было там весела, і п'яных не было, і хамства неназіралася.

Так, я згодна: цэлы культурны пласт знік разам з вёскамі. І якой балючай была мая нядаўняя паездка ў Лапуны! Ад хат засталіся толькі падмуркі. Няма квітнеючых садоў, не чуваць спеву птушак, няма бэзу і язміну. Дзе-нідзе толькі адзінока тырчаць кусты жоўтых вяргіняў ды вострыя лісты касачоў.

Адшумела, адышло жыццё Лапуноў, Леваноў, Бялянак і іншых. Стаяць голыя пагоркі і жальбуюць па сваіх колішніх гаспадарах...

Паважаныя спадары Уладзімір і Мікалай, задумка ў вас вельмі цікавая і патрэбная. А ці збыўная яна цяпер? Іншы ўклад жыцця, іншая культура. Правільна ставіць пытанне наш Прэзідэнт аб адраджэнні вёскі шляхам пабудовы аграгарадкоў, хоць гэта не адродзіць нашых былых вёсак. Камяні з назвамі вёсак можна было б зрабіць, а ці хопіць для гэтага грошай і сіл, калі ў нас няма сродкаў увекавечыць хаця б помнікі гісторыі і прыроды?

Можа, у цэнтральных вёсках стварыць мемарыяльныя дошкі з картай краю, на якой пазначыць колішнія вёскі і ўказаць, калі і чаму яны зніклі. А можа, хто іншы варыянт прапануе? Трэба толькі сказаць, што пытанне для агульнага абмеркавання Вы паставілі правільнае.

*М. ЮШКЕВІЧ, Віцебскі раён*

**Ад рэдактара.** Шаноўная спадарыня М. Юшкевіч! (Дарэчы, Вы часта нам пішаце, але імя свайго не называеце. Расшыфруйце нам, калі ласка, імя нашай удзячнай чытачкі і пастаяннай аўтаркі.)

Шчыра дзякуем за падтрымку намаганняў «КГ» узняць тэму зніклых вёсак. Яна хутка стане яшчэ больш балючай у сувязі са стварэннем так званых «аграгарадкоў», дакладней было б назваць гэты працэс «аднаўленнем былых мястэчак».

Дыскутуючы па пытанні: як захаваць гістарычныя назвы нашых населеных пунктаў, што зрабіць, каб не знішчаліся магілы нашых дзядоў з тых пакінутых вёсак, мы з Вамі падымаем на ўзровень дзяржавы менавіта дзяржаўнае пытанне.

Незалежная дзяржава Беларусь павінна дбаць і ахоўваць усё сваё адметнае, усё сваё гістарычнае.

Таму і зварот свой мы накіроўваем у першую чаргу да мясцовых Саветаў: збіраць з дапамогай краязнаўцаў звесткі аб зніклых вёсках сельсавета, прозвішчы людзей, якія жылі там. Гэта патрэбна будзе для наступнага этапу – мемарыялізацыі тых месцаў, для стварэння новых турыстычных маршрутаў.

## На тым тыдні

**24 лютага 2006 года** на базе беларускамоўнай гімназіі № 4 г. Мінска адбылося чарговае пасяджэнне Цэнтральнага Савета Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край». У пасяджэнні прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрстваў адукацыі, культуры, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Беларускага фонда культуры, педагогі, вядомыя краязнаўцы. Былі разгледжаны пытанні дзейнасці юных краязнаўцаў па накірунках IV этапа Усебеларускай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» за 2004–2005 гады, задачы на 2006 навучальны год.

Матэрыял аб гэтым чытайце ў адным з наступных нумароў «КГ».

**24–25 лютага 2006 года** на гістарычным факультэце БДУ прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя «Крыніцазнаўства, археаграфія, архівазнаўства ў XX–XXI стст. у Беларусі», прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага вучонага М.М. Улашчыка. На пленарным пасяджэнні выступілі старшыня Белкамархіва У. Адамушка, дэкан гістфака БДУ С. Ходзін, В. Чамярыцкі (Мінск), І. Мацяш (Кіеў), Г. Харашкевіч (Масква), Н. Хіміна (Масква), М. Нікалаеў (Санкт-Пецярбург).

Работа канферэнцыі, разлічаная на 2 дні, працягнулася ў 4 секцыях. 25 лютага навукоўцы з Мінска і іх госці наведалі малую радзіму М. Улашчыка ў Дзяржынскім раёне.

На здымку: прэзідыум канферэнцыі.






**Разумаў** Генадзь Уладзіміравіч (н. 22.07.1946, г. Казань, Татарстан), рэдактар газеты «Белорусский автозаводец» (Жодзіна). Скончыў БДУ (1969). Вывучае гісторыю горада Жодзіна і Смалявіцкага раёна. Адзін з аўтараў кнігі «Памяць. Смалявіцкі раён і г. Жодзіна» (2000).

Тв.: Смалявічы. Мн., 1998.

**Райскі** Уладзімір Якаўлевіч (н. 20.05.1927, г. Канстанцінаўка Данецкай вобл., Украіна), кандыдат гістарычных навук (1976). Скончыў БДУ (1962). Настаўнікамі ў краязнаўстве лічыць І. Ігнаценку і І. Марчанку. Удзельнічаў у стварэнні кніг «Памяць» Веткаўскага, Гомельскага, Чачэрскага раёнаў і г. Гомеля. Аўтар прац па гісторыі прадпрыемстваў Гомельшчыны.

**Райчонак** Ада Эльеўна (н. 10.04.1937, г. Віцебск), дырэктар музея мастацтва і этнаграфіі імя Я. Драздовіча ў в. Германавічы Шаркоўшчынскага раёна. Скончыла Пскоўскі пединстытут (1965). Краязнаўчую дзейнасць распачала ў 1958 г. Настаўнікамі лічыць А. Марачкіна і А. Куржалава. Вывучае гісторыю Дзісненскага раёна.



*Г. Разумаў*



*У. Райскі*

***Шаноўныя сябры-краязнаўцы! Гэтыя матэрыялы не канчатковыя, таму можаце дасылаць свае дапаўненні для будучага слоўніка.***

*Краязнаўцы ў дарозе*

## Вясковыя святыні

У пачатку 1990-х гадоў перад гісторыкамі адкрыліся новыя, раней занядбаныя накірункі даследаванняў. Сярод іх – вывучэнне таго, што так ці інакш было звязана з даўнімі вераваннямі нашых продкаў. Сляды язычніцкіх культаў, пакланення святым камяням, лекавыя крыніцы, гаючае дзеянне якіх таксама грунтуецца на паданнях і легендах, захаваліся яшчэ ў многіх мясцінах па ўсёй Беларусі, нягледзячы на шматлікія спробы знішчыць іх, выкараніць памяць і веру ў іх магічнае дзеянне. Хрысціянства таксама зазнала ганенні, і замест разбураных ці апаганеных храмаў утвараліся ў глухіх лясных нетрах прошчы, захоўваліся святыя крыніцы, святыя камяні, да якіх у святы ішлі людзі, што не хацелі адступацца ад веры.

Храмы руйнаваліся, ператвараліся ў склады, свірны для захавання збожжа. Вось і пачалі множыцца патаемныя месцы для малення ў лясах, называемыя ў народзе прошчамі, патаемна збіраліся вернікі і каля крынічак, многія з якіх здаўна лічыліся святымі, вада з іх была гаючай, лячыла ад хвароб.

Не шанцавала і былым панскім маёнткам, многія з іх былі разрабаваны, спалены, у лепшым выпадку прыстасаваны пад гаспадарчыя пабудовы.

Узнікла патрэба ўсё тое, што ў савецкія часы выпадала з поля зроку даследчыкаў, нанава абследаваць, вызначыць, што захавалася, што не, у якім стане знаходзіцца. Да таго ж, ва ўсім свеце, а не толькі на постсавецкай прасторы, абудзілася цікавасць да ўсяго таго, што сталі называць «вясковымі святынямі».

Гэтай тэматыкай зацікавілася і група энтузіястаў-аматараў, якая аб'ядналася ў своеасаблівую суполку ці клуб, назваўшы «Этнаграфічны цэнтр «Явар». Ініцыятарамі яе стварэння былі людзі, у якіх быў пэўны багаж ведаў, напрацовак, матэрыялаў, звязаных з тэмай «вясковых святыняў». Эдвард Зайкоўскі займаўся даследаваннем святых крыніц, прошчаў, крыжоў, у іх пошуках паспеў шмат дзе пабываць. Ірына Клімковіч склала энцыклапедычны слоўнік «Беларуская міфалогія» і працягвае цікавіцца гэтай тэмай. Людміла Дучыц сабрала багатую базу дадзеных паводле абследаванняў народных святыняў, зробленых яшчэ ў канцы XIX стагоддзя, якія склалі кнігу «Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў».

Гэтая ініцыятыўная група і вырашыла пяць гадоў таму пачаць паездкі па рэспубліцы «на разведку»: з мэтай пабываць там, дзе ўжо былі выяўлены ці мелася надзея знайсці вясковыя святыні, сабраць і запісаць звязаныя з імі паданні, легенды і іншыя звесткі. Сродкаў для таго, каб набыць транспарт, не было, і тады вырашылі наймаць у складчыну мікраўтобус на 10-12 месцаў. Да ініцыятараў далучылася яшчэ некалькі энтузіястаў, сярод якіх аказаліся не толькі гісторыкі, а яшчэ і краязнаўцы, этнографы, журналісты, а то і людзі, далёкія ад навукі, але зацікаўленыя родным краем, схільныя паболей убачыць, уведаць пра яго мінулае і сённяшняе. Сярод іх аказаўся і аўтар гэтых радкоў.

За пяць гадоў адбылося больш за пяцьдзесят экспедыцый. Абследавана вялікая колькасць аб'ектаў, сабраны багаты матэрыял, вызначана, якія аб'екты страчаны, якія захаваліся, у якім стане знаходзяцца цяпер.

Кожны з удзельнікаў атрымаў і атрымлівае сваё задавальненне і сваю карысць ад паездак. Людміла Дучыц і Эдуард Зайкоўскі ў выніку вандровак выдалі кніжку «Жыватворныя крыніцы Беларусі», апублікавалі шэраг артыкулаў, выступілі на навуковых канферэнцыях. Ірына Клімковіч скарыстала ўражанні ў шэрагу артыкулаў для часопіса «Маладосць», а таксама падчас укладання энцыклапедычнага даведніка «Беларуская міфалогія». Святлана Ішчанка напісала некалькі артыкулаў для газеты «Культура». Мастацтвазнаўца Вольга Лабачэўская ўсюды, дзе была, цікавілася саматканымі ручнікамі (яна – аўтар кнігі пра ручнікі) і іншымі відамі народнага ткацтва, а таксама арыгінальнымі пудзіламі, якія ўлетку красаваліся на гародах і ў садах. Здавалася б, што такі від народнай творчасці не варты таго, каб ім займацца, але столькі выдумкі, густу і арыгінальнасці сустракалася ў гэтых немудрагелістых вырабах, што пераконваешся: гэта таксама цікава і заслугоўвае ўвагі. Вячаслаў Раковіч усюды цікавіўся этнаграфічнымі вырабамі, прадметамі побыту, якія ўжо выйшлі з ужытку.

А вось Алесі Ракавай і яе дачцы Агаце паездкі паслужылі для пашырэння кругагляду.

У наступныя гады паездкі на разведку будуць працягвацца. Будзем спадзявацца, што яны будуць з поспехам выкарыстаны ў мэтах краязнаўства.

*Міхась КЕНЬКА*

*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-прававаой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**МОРГ** (ням.) – адзінка вымярэння зямлі ў сістэме мер ВКЛ. Раўняўся 0,7 га.

**МУЖЫКІ** – адна з назваў цяглых сялян у афіцыйных актах ВКЛ XV–XVI стст., феадальна-залежныя сяляне, якія адбывалі паншчыну. Апроч працы на полі, выконвалі і іншыя віды работ.

**МУРЗА** (цюрк.) – тытул знаці ў Астраханскім, Крымскім і інш. ханствах. Захаваўся і ў аселых у ВКЛ выхадцаў з суседніх ханстваў, мелі маёмасць, служылі ў войску ВКЛ, мелі правы шляхты.

**МЫНЦА** – манетны двор у ВКЛ. Асоба, што адказвала за яго работу, называлася мынцарам.

**МЫТ** (мыта, цло) – пошліна, якую бралі ў ВКЛ з купцоў і іншых гандляроў за ўвоз з-за мяжы і вываз тавараў за мяжу, за правоз тавараў у межах краіны. Яго збіралі мытнікі ў каморах і прыкаморках грашамі або таварамі, з XVI ст. права на мыта манапольна было ў дзяржавы. Да 1764 г. ад выплаты мыта вызвалялася шляхта. Збіраў пошліну мытнік. Запісы пра гэта рабіліся ў мытных кнігах.

**МЯДНІЦА** – асноўная адзінка вымярэння мёду і масла ў сістэме мер ВКЛ. Была неаднолькавай. Паводле пастановы сейма 1766 г. раўнялася 7 гарцам – 19,76 л.

**МЯСТЭЧКА** (агульнасл. места, горад) – паселішча, што мае рысы горада і вёскі – грамадскімі і асабістымі пабудовамі, наяўнасцю крам і розных дробных прадпраемстваў, аграрных характарам. На Беларусі сталі вядомыя з XIV ст. (звычайна каля вялікакняжацкіх і магнацкіх маёнткаў, пры якіх існавалі таргі), большасць – пасля 1588-га. Мястэчкі былі дзяржаўныя, прыватнаўласніцкія, царкоўныя, некаторыя мелі магдэбургскае права. У іх жылі мяшчане (пераважна гандляры і рамеснікі), якія плацілі чынш і выконвалі розныя павіннасці (згоны, паштовую, вартавую і інш.), гандляры, карчмары, рамеснікі яўрэйскай нацыянальнасці, сяляне, якія адбывалі паншчыну. У XVI–XVIII стст. на Беларусі было больш за 300 мястэчак. Асобныя мястэчкі вызначаліся сваімі адметнымі кірмашамі.

**МЯШЧАНЕ** – розныя гараджане (рамеснікі, дробныя гандляры, домаўладальнікі і інш.) у гарадах ВКЛ. Тэрмін замацаваўся з 1460-х гадоў (акты з Полацка). Саслоўе мяшчан папаўнялася сялянамі, збяднелай шляхтай і інш. Мяшчане паводле магдэбургскага права мелі розныя прывілеі і павіннасці (вайсковая і інш.) На працягу стагоддзяў ішло іхняе расслаенне, у тым ліку і рэлігійнае. Кіруючае іхняе асяроддзе (прыкладна 10 %) было з багатых купцоў, цэхмістраў, майстроў і землеўласнікаў. Адна трэць складалася з бедных («людзныя», «гультаі»). Яны часта падымалі бунты і паўстанні.

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

# Афіцыйнае двухмоўе на Беларусі:
## рэальнасць ці дысбаланс?

*(Праця́г. Пачатак у №№ 8, 9)*

Яшчэ на самай першапачатковай стадыі распрацоўкі дзяржаўнай канцэпцыі афіцыйнага двухмоўя была закладзена грубая памылка. З вуснаў і з-пад пяра аўтараў гэтай канцэпцыі не сыходзілі словы «раўнапраўнае выкарыстанне беларускай і рускай моваў». І нямала людзей паверыла ў гэта. Ці верылі ў гэта самі «архітэктары» майскага рэферэндуму 1995 года? Яны, напэўна ж, некалі добра вывучалі творы У. Леніна і памяталі яго – на гэты раз правільныя – словы: «Поўнай адпаведнасці не бывае нават у найпрасцейшых з’явах прыроды» (ПСС. Т. 26, С. 152, 153), што «такой адпаведнасці не можа быць у развіцці прыроды, як і ў развіцці грамадства» (ПСС. Т. 36, С. 306). На правядзенне рэферэндуму ішлі толькі дзеля таго, каб атрымаць дазвол ад народа на ўсталяванне юрыдычнай роўнасці беларускай і рускай моваў у грамадскім жыцці, наперад ведаючы, што гэта чысцейшай вады міф і што абавязкова пераможа мова, у якой на той час былі больш моцныя пазіцыі ў гэтым жыцці, г.зн. руская. І тады шматлікаму, уплывоваму ў краіне чыноўніцкаму апарату не спатрэбіцца вывучаць родную мову сваёй тытульнай нацыі, і ён за такую моўную палітыку будзе вельмі прыстойна выглядаць перад сваімі калегамі ў Расіі, што абавязкова становча адаб’ецца на ход стварэння адзінай з ёй дзяржавы. З усіх былых савецкіх рэспублік толькі моўная палітыка Беларусі цалкам задавальняе «усеславянскі цэнтр», хоць такое дасягаецца праз поўнае выключэнне беларускай мовы з абслугоўвання грамадскага жыцця, што немінуча прывядзе да канчатковага вымірання яе. Ужо сёння досыць рэльефна назіраецца такое. Ідэя афіцыйнага двухмоўя, раўнацэннасці дзяржаўных беларускай і рускай моваў цалкам праваліласа, і гэта трэба публічна прызнаць нашым высокім палітыкам, не ўводзячы ў зман людзей. Многія з іх рэальна ўспрымаюць моўную сітуацыю і правільна бачаць галоўных віноўнікаў страты беларускім словам сваіх законных сацыяльных функцый.

Тое, што адбываецца ў нас з беларускай мовай, не дастасуеш да практыкі ніякай вольнай краіны свету. У часы Старажытнага Рыма, напрыклад, многія трымаліся добра выверанага правіла: «Чыя ўлада, таго і мова». Ніхто не будзе спрачацца, што ўлада ў нас беларуская, таму, зразумела, і мова павінна быць беларускай. На справе ж і раней, і зараз (у суверэннай краіне!) у нас зусім не так: мова ў афіцыйным жыцці небеларуская. У тым жа Старажытным Рыме лічылася за норму: «Чыя мова, таго і ўлада». У нас усё наадварот: мова – іншая, улада – беларуская. Ці не таму так абвастрылася, нягледзячы на існаванне ўласнай дзяржаўнасці, праблема захавання этнакультурнай самабытнасці беларускага народа? Яго культурна-моўнае жыццё, асабліва ў гарадах і ў асяроддзі самых адукаваных пластоў насельніцтва, не выключаючы і палітычную эліту, больш адпавядае рускім, чым беларускім стандартам. Насельніцтва гарадоў практычна не з’яўляецца носьбітам беларускай мовы. І таму створаныя на аснове яе каштоўнасці застаюцца не запатрабаванымі.

Варожы таму ці іншаму народу палітычны рэжым заўсёды знойдзе ў сабе сілу задушыць яго родную мову. Але калі палітычны рэжым ставіць мэтай працаваць у інтарэсах таго ці іншага народа, яго родную мову ён можа выратаваць з самага глыбокага заняпаду. Пераканаўчы прыклад гэтаму – яўрэйская дзяржава Ізраіль. Пры жаданні сучасныя дзяржаўныя ўлады Беларусі дзеля прадухілення пагібелі яе прыроднай нацыянальнай мовы і набыцця ёю прыстойнага месца ў грамадстве могуць зрабіць у дзесяткі разоў больш, чым увесь пісьменніцкі корпус, Інстытуты мовазнаўства і літаратуры НАН Беларусі, кафедры беларускай мовы і літаратуры вышэйшых навучальных устаноў, выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і агульнаадукацыйных школ, рэдакцый беларускіх газет і часопісаў, радыё і тэлебачання, Таварыствы беларускай мовы і беларускай школы. Для гэтага ўладам толькі трэба надаць беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай у краіне і неадступна праводзіць яго на практыцы шляхам прыняцця і ажыццяўлення адпаведных нарматыўных актаў. Наданне такога справядлівага, законнага для беларускай мовы статусу ўмомант зробіць яе запатрабаванай усім грамадствам, прычым адпадзе неабходнасць прымусу, каго б там ні было, вывучаць яе, бо ў гэтым будуць зацікаўлены ўсе насельнікі. Узвядзеннем беларускай мовы на дзяржаўны п’едэстал мы станем упоравень з усімі астатнімі краінамі з адной тытульнай нацыяй і не будзем, як сёння, выглядаць сярод іх белай воронай.




*Фасад аднога з мінскіх дамоў... Мінімум шыльдаў па-беларуску. Затое часцяком у нас можна пабачыць і дзіўныя наватворы, зразумелыя хіба толькі самім стваральнікам фірмы, і перакручаныя беларускія словы, як тыя ж «ялина» ці «криница».*

Ці ж для нас не можа быць эталонам дзяржаўная моўная палітыка Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Балгарыі, Германіі, Францыі, Італіі... Усялякія спасылкі, што ў нас гэтак гістарычна склалася з рускай мовай, некарэктныя. Не будзем забывацца, што дзеля яе распаўсюджвання на тэрыторыі Беларусі царскія, а затым савецкія ўлады больш за два стагоддзі выкарыстоўвалі магутны чыноўніцкі апарат, асігнавалі астранамічныя фінансавыя сродкі, правялі шырокі комплекс разнастайных мерапрыемстваў ідэалагічнага парадку па размыванні нацыянальнай самасвядомасці нашых людзей.

Зразумела, у кагосьці і з беларусаў можа выклікаць адмоўную рэакцыю наданне толькі іх мове статусу дзяржаўнай. І іх нельга за гэта дакараць, бо на працягу доўгага часу і зараз сістэма адукацыі, дзяржаўны ідэалагічны апарат прывучалі і прывучаюць маладое пакаленне да рускіх культурна-моўных каштоўнасцяў, чым да беларускіх. І школьнікі, і студэнты больш ведалі пра Аляксандра Неўскага, чым пра Давыда Гарадзенскага, больш пра Пятра I, чым пра Льва Сапегу, пра Аляксандра Пушкіна больш, чым пра Янку Купалу. Вось чаму нават з вуснаў не першага года працы радыёжурналістаў можна пачуць такое: «У нас пры Пятры Першым...» Не сумняваюся, у Маскве ніхто з іх калег не скажа: «У нас пры Льву Сапегу...».

Наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай дасць магутны ўплыў на масы сучаснага дзяржаўнага ідэалагічнага апарату, афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Пры патрэбе яны без асаблівых цяжкасцяў могуць давесці да разумення ўсіх людзей, спасылаючыся на шматлікія пераканаўчыя факты з паслярэферэндумскай практыкі, што афіцыйнае двухмоўе – гэта нерэальны, памылковы, пагібельны для беларускай мовы шлях, што яно прывядзе да поўнай перамогі рускай мовы, у выніку чаго немінуча надыдзе этнічная смерць беларускага народа на сваёй жа зямлі. Хтосьці можа запярэчыць: знікненне роднай мовы яшчэ не азначае этнічнай смерці народа. Дапусцім, што гэта і так. Але ж ён тады будзе нагадваць чалавека, у якога страшная, невылечная хвароба адняла мову. Мець сваю дзяржаву і дапусціць такое з беларусамі – ці не занадта гэта вялікае злачынства?!

***Леанід ЛЫЧ,***
***доктар гістарычных навук, прафесар***

*(Заканчэнне будзе)*



***На Урале ёсць свой Парыж, у Францыі – Брэст, у Амерыцы – Масква, а ў нас, на Слонімшчыне, ёсць... свая Літва. Такую назву мае адна з вёсак Дзеравянчыцкага сельсавета.***




# Літва Мікульскіх: трагедыя роду

### Аўтограф

Як сцвярджае тапанімічны слоўнік Беларусі, дадзеная назва – гэта назва-этнонім, якая сведчыць пра паселішча, заснаванае і заселенае ў мінулым літоўскім насельніцтвам. Вядома, што летапісная Літва знаходзілася ў Верхнім Панямонні, а не на тэрыторыі сучаснай Летувы (Літоўскай Рэспублікі). Тая летапісная Літва, па словах вядомага гісторыка Міколы Ермаловіча, пакінула свае «аўтографы» у выглядзе назваў вёсак Літва, якія мы знаходзім цяпер у Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім і Маладзечанскім раёнах. Яна ўрэзвалася клінам паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай землямі, з'яўлялася гістарычнай вобласцю Беларусі.



Герб «Равіч»

### Мікульскія

Пасля Айчыннай вайны 1812 года ўладальнікам слонімскай Літвы стаў Стэфан Мікульскі, а яго брат Фларэнцін быў уладальнікам маёнтка Старыя Жыровічы. Увогуле, паны Мікульскія (герба «Равіч») мелі ў Слонімскім павеце шэраг маёнткаў, лічыліся адной з заможных і ўплывовых сем'яў у Гродзенскай губерні. Цікава, што ў канцы 20-х гг. XIX ст. у Адама Міцкевіча ў Пецярбурзе быў добры знаёмы Караль Мікульскі, якога паэт называў калегам (настаўнікам) са Слоніма. Гэта быў стрыечны брат слонімскіх Мікульскіх. Кандыдат філасофіі, настаўнік «древней словесности» Свіслацкай гімназіі Караль Мікульскі належаў да таварыства філарэтаў, быў павінны «слабом за учениками смотрении», за што разам з іншымі выкладчыкамі быў узяты «под арест на гауптвахту», сасланы ў Брэст-Літоўск. Слонімскія Мікульскія таксама былі дзейнымі членамі падпольных таварыстваў, галоўнай мэтай якіх было скіданне царскага самаўладства. У 1863 г. Стэфан Фларэнцін прыняў удзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. У адным з баёў браты былі цяжка параненыя, што прымусіла абодвух скласці зброю. За ўдзел у паўстанні Мікульскія былі асуджаны на ссылку ў губерні Расіі.



В.П. Валюкевіч

### Нашчадкі

Але свае маёнткі Мікульскія за сабой захавалі. Пасля паўстання 1863–1864 гг. уладальнікам Літвы стаў сын Стэфана Аляксандр Мікульскі. Ён быў не толькі добрым гаспадаром, але і высокаадукаваным культурным чалавекам. Абедзьвюх сваіх дачок пан Аляксандр вучыў у швейцарскім універсітэце ў Жэневе. Кажуць, што дзяўчаты былі вельмі руплівыя, вывучалі не толькі класічныя навукі, прыгожыя мастацтвы, але і шавецкае ды кравецкае рамёствы. Калі ў 1921 годзе Аляксандр Мікульскі памёр, дочкі падзялілі бацькоўскую маёмасць. Старэйшай сястры дастаўся маёнтак Літва, а малодшай – маёнтак Андрэева са спіртзаводам.

### Палац і парк

Межы маёнтка і панскія палі былі абсаджаны акацыяй. Парк апярэзвала высокая агароджа, якая ахоўвала гаспадыню ад няпрошаных ды нечаканых гасцей. У цэнтры сучаснай вёскі стаіць праваслаўны крыж,



М.І. і Я.С. Філёнчыкі

на месцы якога калісьці знаходзілася вялікая брама. Непадалёк, па правы бок дарогі, мы бачым хату, на месцы якой некалі знаходзіўся панскі палац.

*– Ён быў двухпавярховы, цагляны, пабудаваны ў стылі эклектыкі, меў прыгожы 4-калонны порцік,* – успамінае Здзіслаў Карлавіч Бернатовіч, жыхар г. Калінінграда, чыё дзяцінства прайшло ў в. Літва. *– Да галоўнага ўваходу вяла высокая парадная лесвіца. Палац быў невялікі, але вельмі ўтульны. Яго жамчужынай была вялікая зала для прыёму з камінам, цудоўным кляновым паркетам. У парку, побач з палацам, мелася зашкленая кветкавая аранжарэя. Драўляныя альтанкі, невялікая сажалка стваралі атмасферу супакаення і ўтульнасці.*

*– Да палаца ад сучаснай шашы вяла брукаваная дарога, а дрэвы, якія зараз растуць па яе баках, былі пасаджаны яшчэ Мікульскім,* – гаворыць Вольга Піліпаўна Валюкевіч, жыхарка в. Літва.

Пасля прыходу Савецкай улады ў палацы размяшчаліся бальніца і сельсавет. На жаль, у гады вайны палац згарэў. Але фрагменты парку захаваліся да нашых дзён.

### Гаспадарка

Умелае вядзенне гаспадаркі зайсёды дазваляла Мікульскім быць адны́мі з заможных землеўладальнікаў у павеце. У маёнтку Літва ў пачатку XX ст. недалёка ад палаца былі шматлікія гаспадарчыя пабудовы: кароўнікі, гумны, кухні, абора для жывёлы, вялікая стайня, сад. Сыраварня, пабудаваная з валуноў, стаяла асобна на ўзгорку. У птушніку разводзілі індыкоў. І статак панскі быў добры, а каровы пародзістыя (мабыць, альпійскія), чырвонай масці.

*– Калі стварaўся саўгас, мы яшчэ заспелі тут некаторыя панскія пабудовы: свіран, вялікі цагляны кароўнік, вялікая малацілка (якую круцілі коньмі), гараж, баракі. Мы яшчэ ў тых бараках нават пажылі, пакуль пабудаваліся,* – прыгадвае Мікалай Іванавіч і Яўгенія Сямёнаўна Філёнчыкі, жыхары в. Літва.





Гаспадарчыя пабудовы

### Панскія могілкі

На процілеглым ад вёскі баку шашы знаходзіліся панскія могілкі. Яшчэ ў 20-х гг. XX ст. там стаяла неагатычная капліца з жоўтай цэглы. А побач – вялікі мураваны склеп з вакном каля самай зямлі. У 1939 г. могілкі былі разбураны: вандалы знішчылі надмагільны помнік, павыкідвалі труны са склепа. Зараз на тым месцы звычайны лес, нішто не нагадвае аб памяці роду Мікульскіх...

### Трагедыя

У 1939 годзе пані Мікульская са сваім фурманам ездзіла ў Варшаву, дзе купіла аўтамабіль «Фіат». На той час ёй было каля 60 гадоў, але яна лічыла, што жыццё працягваецца, наперадзе чакаюць добрыя змены. Праз некаторы час змены сапраўды адбыліся, але ў адносінах да Мікульскіх яны насілі трагічны характар. У верасні 1939 г. у Слонім прыйшла савецкая ўлада, для гаспадыні Літвы настали чорныя дні. На пані Мікульскую пачалі скардзіцца жыхары вёскі Вербалаты. Яе арыштавалі і адвезлі ў Жыровічы, дзе трымалі тыдзень, а потым зноў даставілі на допыт у Літву. Кажуць, што Мікульскую не кармілі некалькі дзён, яна была вельмі галодная.

К.З. Бернатовіч успамінае:

*– Некаторыя вяскоўцы здзекаваліся з яе, абсыпалі хлеб пяском, кідалі пані, як сабачцы, а яна казала ім: «Дзякуй!» А яна ж ведала шмат замежных моў, была вельмі адукаваная, таму казала, што будзе вучыць вясковых дзяцей, толькі прасіла, каб яе не забівалі. Але няшчасную пані Мікульскую ўсё ж расстралялі.*

Калі ехаць з Літвы на Жыровічы па асфальце, па левы бок бачны лясочак. Вось там, каля в. Заверша, недалёка ад дарогі яе забілі. Па словах В. Валюкевіч, яе забіў Фідрык з Заверша. А яго самога потым каля в. Русакова забілі немцы.

***Святлана і Ігар ПРАКОФ'ЕВЫ,***
***Фота аўтараў***



Рэшткі панскага парка

*Галерэя ДМ - гэта кавярня «Фальварак «Добрыя Мыслі», дзе ўжо тры гады ладзяцца мастацкія выставы. Такая каштоўная для нашага грамадства з'ява сталася магчымай з руплівай ласкі гаспадыні – сп. Ірыны Каліноўскай – і групы дасведчаных у нашай культуры дзеячаў, да якіх яна ў свой час звярнулася па параду.*

*Душа, розум і сэрца кожнага, хто ўпершыню пераступіў парог, напачатку быццам дранцвеюць, як бы трапіўшы з холаду ў кіпень, затым ажываюць, і чалавек гэты ўжо надалей зноўку імкне сюды, каб наталіць тут найперш свае асмяглыя пачуцці, а потым і вусны.*

*Чарговаю з'яваю тут сталася мастацкая выстаўка, прымеркаваная да 168-й гадавіны з дня нараджэння Вікенція Канстанціна Каліноўскага.*

# Урок гісторыі ў атмасферы галерэі



*Арлен Кашкурэвіч, «Паранены паўстанец (Памяці 1863 года)», 1976*



*Алесь Цыркуноў, «Пакліканыя ўтрапёныя прадвечнаю воляй», 2006.*

Адлюстраванне тэмы паўстання ў беларускім выяўленчым мастацтве сягае ў глыбіню падзеі. Першымі яго ўвасобілі непасрэдныя ўдзельнікі тых падзеяў – мастакі Міхал Эльвіры Андрыёлі, Генрых Дмахоўскі, Аляксандр Ельскі, Казімір Альхімовіч, Альфрэд Ромэр і іншыя. Іх творчасць – яскравы прыклад позняга рамантызму.

Пачатак XX стагоддзя знамянальны зваротам новага пакалення мастакоў да вобраза Кастуся Каліноўскага, якога адным з першых у гэтую эпоху выдатна ўвасобіў у пластыцы Аляксандр Грубэ. Вялікі ўклад у распрацоўку вобраза Каліноўскага ўнёс класік беларускага жывапісу Пётра Сергіевіч. У 1950-я гады на грунце цэлай галерэі падрыхтоўчых малюнкаў і эцюдаў ім створаны манументальныя палотны з адлюстраваннем герояў паўстання. Да гэтай тэмы звярталіся многія мастакі 1950–1980 гадоў – скульптар Заір Азгур, графік Сямён Герус, жывапісцы Раіса Кудрэвіч і Адольф Гугель, Леанід Шчамялёў і іншыя.

Аб гэтай велічнай постаці досыць глыбока і поўна сказана, але яна як тая кветка лілеі ці эдэльвейса – дакуль будзе існаваць наша Айчына – будзе вабіць да сябе ўсё новыя пакаленні творцаў. Найкаштоўнейшыя складнікі яго фенаменальнасці – бездакорная чысціня і непахісная вера ў вольную будучыню нашай Айчыны, памножаныя на адданую любасць да свайго народу, як і служэнне яму да самаахвярнасці – былі, ёсць і будуць тым прыцягальным магнітам і незгасальным светачам на ўсім працягу нашай далейшай гісторыі.

Як паказвае жыццё, у народнай памяці застаюцца толькі тыя постаці і падзеі, ушанаванне якіх адбываюцца не па загадзе ўладных асобаў, а з прыватных ініцыятываў, безкарысліва і дабрачынна, на сродкі і ахвяраванні самой грамадскасці. Менавіта гэтак праходзіла і адкрыццё названай імпрэзы. Тут традыцыйна па-сямейнаму цёпла і шчыра выступалі многія аўтарытэтныя прадстаўнікі нашай культуры і навукі Аляксей Марачкін і Адам Мальдзіс, Уладзімір Пецюкевіч і Генадзь Тумаш, вядомыя артысты і спевакі Марыя Флар'яновіч (з вершам Уладзіміра Караткевіча «Нявесце Каліноўскага»), Уладзімір Цімашэвіч (з песняй «Шумныя бярозы»).

Экспазіцыя арганізавана творчай суполкай «Пагоня» пры Беларускім саюзе мастакоў. Бальшыня прадстаўленых твораў уяўляе рэтраспекцыю з раней выкананых мастакамі жывапісных твораў. Выключэннем з'яўляюцца толькі два творы Алеся Цыркунова. Адзін прысвечаны непасрэдна кіраўніку вызвольнага паўстання і выкананы сёлета, а другі заletась, які паменшанай копіяй з яго палатна «Хрыстос і сірата» фактычна вяртае постаць выбітнага мастака і паўстанца Альфрэда Ізыдора Ромэра. Твор гэты настолькі шматзначны, што заслугоўвае асаблівай гаворкі, найбольшую ўвагу яму надае глыбокая філасафічнасць. Праца сімвалізуе апафеоз усяму вызвольнаму руху ад шматлікіх рабаўнікоў на нашых землях як мінулых, так і будучых часоў.

Значную частку экспазіцыі складаюць творы папярэднікаў, якія на пачатку XX стагоддзя пачалі ўслаўленне геройскага чыну Кастуся Каліноўскага. Гэта найперш Міхась Філіповіч. Пётра Сергіевіч прадстаўлены эцюдамі, якія ствараюць атмасферу паўстанцкага асяродку. Цудоўныя графічныя творы Міхася Сеўрука праз адлюстраваную на іх архітэктурную забудову быццам вяртаюць нас у трывожныя часы.

***Алехна СВІКРОС***




**(Працяг. Пачатак у №№ 6, 7)**

## *Маршрут 5*

### Збаравічы – Ашнарава – п. імя Леніна – Путнікі – Шчарбіны – п. Лашаны – Недраска – ст. Беларусь

***Асаблівасць гэтага маршрута ў тым, што ён праходзіць, па-першае, па маляўнічай пагоркавай мясцовасці Мінскага ўзвышша і Чарнаморска-Балтыйскага водападзела (пачынаючы ад рэчкі Гуйкі басейна Нёмана і канчаючы ракой Свіслач басейна Дняпра), а па-другое – уздоўж былой савецка-польскай мяжы 1921–1939 гадоў акурат па лініі бетонных дотаў Мінскага умацаванага раёна, частка якіх аб'яднана ў музейны комплекс.***

*Падрыхтоўка да падарожжа:*
*1) удакладніць на аўтавакзале «Маскоўскі» расклад руху аўтобусаў Мінск–Чыровічы і іншых, што ідуць праз Збаравічы;*
*2) дамовіцца аб наведанні комплекса адноўленых дотаў па тэл. (017) 503 20 22, (029) 675 46 56,*
*3) дамовіцца ад наведанні школьнага музея ў п. Лашаны па тэл. (017) 503 21 84, 503 21 85.*

| | |
|---|---|
| *Прыпынак аўтобуса Збаравічы* | *0 км* |
| *Збаравічы – гарадзішча, дот* | *2 км* |
| *Дот ля Жукоў пад ЛЭП* | *1 км* |
| *Дот пад ЛЭП перад Ашнаравам* | *1 км* |
| *Ашнарава – падмурак сядзібнага дома* | *1 км* |
| *Ашнарава – дот у кар'еры* | *1 км* |
| *Ашнарава – дот* | *1 км* |
| *п. імя Леніна – месца сядзібы Верасы* | *1 км* |
| *Мацкі – дот* | *2 км* |
| *Путнікі – рэшткі сядзібы Стары Ломшын* | *2 км* |
| *Гарошкі – музейны комплекс адноўленых дотаў* | *5 км* |
| *п. Лашаны – школьны этнаграфічны музей* | *3 км* |
| *Недраска – дот, рэшткі сядзібы Недраска* | *2 км* |
| *Чыгуначная станцыя Беларусь* | *4 км* |
| *УСЯГО* | ***26 км*** |

Ад прыпынка Збаравічы рэйсавага аўтобуса Мінск–Чыровічы рухаемся назад па асфальтавай дарозе, якая з'яўляецца старажытным трактам Менск–Вільня. За мостам праз рэчку Гуйку паварочваем налева. Справа ў полі – парослая дрэўцамі ўзвышаная пляцоўка гарадзішча штрыхаванай керамікі (I–IV ст.). Яго адкрыў у 1912 г. археолаг, дырэктар Мінскага царкоўна-археалагічнага музея, гаспадар сядзібы Кальзбэрг (цяпер вёска ў Мінскім раёне) Андрэй Снітка. Ніякіх слядоў умацаванняў гарадзішча па перыметры няма. Мясцовая назва гэтага археалагічнага помніка – Выспа, на ім пастаўлены ахоўны знак. Гарадзішча размешчана на Чарнаморска-Балтыйскім водападзеле і, магчыма, з'яўлялася ўмацаваным паселішчам на сухапутным волаку гандлёвага шляху праз вярхоўі рэк Чарняўкі і Гуйкі.

Ідзем краем поля супраць плыні ракі. У хмызах знаходзім кладачку праз ручай, які цячэ да рэчкі, пераходзім яго і, увайшоўшы ў лес, узнімаемся на пагорак, які мясцовыя жыхары называюць Замкам. Ён размешчаны на высокім левым беразе рачулкі Гуйкі басейна Нёмана. Магчыма, тут таксама было ўмацаванае паселішча – з усходу і поўдня пляцоўкі захаваліся рэшткі насыпу вышынёй да 30 см. На схіле ў бок ракі і вёскі Збаравічы «глядзіць» бетонны дот Мінскага ўмацаванага раёна, пастаўлены ў 1930-я гг. З пляцоўкі паміж дрэў можна ўбачыць вёску Збаравічы за рэчкай Гуйкай. Акурат насупраць гарадзішча захаваліся пара старых дрэў і пасадкі бэзу. Там размяшчалася невялікая панская сядзіба Збаравічы, якая ў XIX – пачатку XX ст. належала Віткоўскім. Гімназіст Алаіз Віткоўскі ўдзельнічаў у паўстанні 1863–1864 гг., падчас вобыску сядзібы жандарамі тады былі знойдзены шматлікія рэвалюцыйныя паперы. Драўляны сядзібны дом быў разабраны яшчэ ў 1929 г.



*Фота Віктара ПІРАГА*

Па ўсходнім схіле гары сыходзім долу і праз кар'ер ідзем да палявой дарогі, што ідзе налева ў вёску Жукі. Але пойдзем не ў яе, а да бетонных дотаў, што бачныя на схіле левага берага Гуйкі. Адзін дот знаходзіцца акурат каля слупа ЛЭП (лінія электраперадач). Ад яго ідзем пад ЛЭП на паўднёвы ўсход і праз 800 м у канцы лесу на схіле трапляем на магутны артылерыйскі дот з паўкапанірамі для дзвюх гармат (абследуючы яго, трэба быць асцярожным, бо ён глыбокі).

За дотам ЛЭП ідзем полем, у якім бываюць багністыя паніжэнні. Ад ЛЭП адыходзім на поўнач (кіруемся лявей) да вёскі Ашнарава. Перад вёскай сярод поля бачныя некалькі дрэў. Каля іх заўважаем цагляны склеп – на ім стаяў драўляны сядзібны дом, разбураны яшчэ да Другой сусветнай вайны. Якраз тут знаходзілася невялікая сядзіба Вейшнарава, назва якой паступова трансфармавалася ў Ашнарава. Магчыма, яна была названа ў гонар баярына Міхайлы Вайшнаравіча, які жыў у Беларусі ў XV ст.

**(Заканчэнне будзе)**





***Івана Паўлавіча пабачыў студэнтам філфака Белдзяржуніверсітэта, у годзе 1964-м, калі да нас на семінар, прысвечаны раману «Людзі на балоце», яго прывёў выкладчык сучаснай беларускай літаратуры. Госць хораша ўразіў мужчынскай гармоніяй – рослацю, як некалі казалі, высокім чалом, па-маладому зачасанымі на правы бок негустымі валасамі, сталым, упэўненым позіркам чалавека сярэдняга веку (яму бралася пад сорак пяць) і прызнанага пісьменніка. І яшчэ ўсмешкай – нібыта трошкі сарамлівай, мякка-сумнаватай.***

# З Глінішча – у свет вялікі,

## або Удзячнае слова пра Івана Мележа[1]

У прозе Мележ дэбютаваў рана, яшчэ дванаццацігадовым хлапчуком (1933). Дасланае апавяданне на прапанаваныя часопісам «Іскры Ільіча» (з 1945 г. «Бярозка») малюнкі, і яно было прызнана лепшым. У 1938-м закончыў выдатнікам школу ў Хойніках, што давала магчымасць паступіць і ў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і культуры. Паступіў толькі ў наступным годзе, калі папрацаваў на розных пасадах і надрукаваў вершы ў «Чырвонай змене» і «ЛіМе», але правучыўся нядоўга: у 1940-м прыклікалі ў армію.

Пасля ранення 20 чэрвеня 1942 г. лячыўся і пісаў апавяданні, вучыўся, а пасля выкладаў у педінстытуце ў Малдавіі і ў Белдзяржуніверсітэце пад Масквой. У 1944-м з лёгкай рукі Кузьмы Чорнага друкуе апавяданне ў «Звяздзе», а ў 1946-м, ужо членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, выдае першы зборнік прозы «У завіруху».

Рэцэнзіі ў 1940-ых – першай палове 1950-х гадоў на зборнікі яго апавяданняў і аповесцей «Блізкае і далёкае», «У гарах дажджы», «Што ён за чалавек», «Гарачы жнівень» называліся так: «Удалы пачатак», «Рассказы о простых людях», «О самых скромных», «Апавяданні аб простых людзях» і г.д. Хіба не гучала гэта ў падтэксце, што і сам аўтар – асоба сціплая, простая? Першы яго раман «Мінскі напрамак» спачатку не хацелі ўвогуле выдаваць. А калі ён пабачыў свет, пайшлі далёка не захапляльныя рэцэнзіі. Нібы пра нейкія брашуру або буклет: «Твор аб Вялікай Айчыннай вайне», «Твор аб вызваленні Мінска», «Аб правамерным і выпадковым», «Непросто, неровно шла дорога» і г.д. Канечне, аўтару твораў не лёгка было ўсё гэта ўспрымаць, тым больш, што яму яшчэ ў 1950-м па стане падарванага здароўя давалі ІІ-ую групу інваліднасці, але ён папрасіў ІІІ-ю, каб кожныя тры месяцы не праходзіць медкамісію. І, можа, толькі ён адзін ведаў: са сваімі «сціплымі» і «простымі» героямі з тых жа родных сціплых паляшуцкіх мясцін, дарагіх сэрцу Глінішч, ён яшчэ скажа важкае слова і выйдзе ў свет вялікі.

Іван Мележ не асабліва актыўнічаў у розных творчых і нятворчых перапалках (яму нават рабіліся закіды, што ён грамадска неактыўны), толькі час ад часу падаваў голас па выдатную творчасць сусветных класікаў, у тым ліку і савецкіх, беларускіх. Многія ведалі, што ён засяроджаўся дома, піша новы твор, але, як пазней стане вядома, толькі лічаныя людзі знаў, які твор.

У часопісе «Полымя» у № 8 за 1961 год з'яўляецца пачатак Мележавага рамана «Людзі на балоце». Было, той-сёй хмыкнуў: «Ат, старое, 20-я гады!» Але чуйныя на сапраўдную прозу чытачы, усе літаратары нецярпліва чакалі працягу. І ўжо 17 кастрычніка таго года – першы водгук на публікацыю ў «ЛіМе» аўтара шматлікіх цудоўных апавяданняў



Я. Брыля з выразным і ўхвальным загалоўкам «Запаветная песня». Пасля проста пасыпаліся і іншыя захапляльныя рэцэнзіі. Спрэчкі-дыскусіі пра далейшы шлях беларускай прозы фактычна скончыліся: ён быў таленавіта і плённа акрэслены «Людзьмі на балоце».

Мележу ўдалося і тое, чаго не ўсе менавіта ад яго чакалі: няспешнае, дакладнае і яркае апісанне палескай вёскі, яе шматлікіх насельнікаў рознага ўзросту і з рознымі характарамі, дастаткам, іхняга штодзённага побыту (не заўсёды цікавага ды вясёлага, але заўсёды патрэбнага). Жыла вёска са стагоддзя ў стагоддзе па сваіх звычаях і абрадах, па забабонах, бедна і багата. Старыя паміралі, маладыя кахаліся, нараджаліся дзеці, сталелі, уцягваліся ў працу, турботу, адыходзілі – і так пакаленне за пакаленнем. Але вось адбылася рэвалюцыі 1917 года, грамадзянская вайна, усталявалася савецкая ўлада з яе імпэтам да разбурэння старога і сцвярджэння новага, што не магло не прынесці сацыяльных, псіхалагічных, духоўных змены ў вёску – як на лепшае, так і на трагедыі.

Любоўныя шматкутнікі: Васіль, Ганна, Яўхім, Хадоська, Хоня, Міканор – апісаннем іхняга духоўнага свету, светлых і грубых пачуццяў спрадвеку займалася тое, чаго ўжо даўно чакала беларуская проза. У прыватнасці, вобраз Ганны стаўся адным з самых яркіх вобразаў усёй беларускай літаратуры і, як вядома, яе на сцэне Купалаўскага тэатра выдатна ўвасобіла Лілія Давідовіч (яе Мележ пяшчотна называў Ганначкай). Яшчэ Іван Паўлавіч не проста ўразіў сваёй багатай, настоенай палескімі зямлёй і сокамі, беларускай мовай, але свежа ўдыхнуў у яе жыццёвасць, паўнакроўнасць, надаў ёй свайго характва, высокай культуры. Працяг «Людзей на балоце» новым раманам «Подых навальніцы» стаўся «Палескай хронікай» і яшчэ больш умацаваў высокую рэпутацыю Мележа-празаіка як у беларускай, так і ва ўсёй савецкай літаратуры. Яго раманы, як і творы В. Быкава, пачалі шырока перакладацца і выдавацца за мяжой, а ў 1972-м ён заслужана атрымаў за дылогію Ленінскую прэмію.

Маё асабістае блізкае знаёмства з Іванам Паўлавічам у літаратурным асяроддзі пачалося з 1973 года, калі мяне, настаўніка і аўтара паўдзесятка надрукаваных апавяданняў, запрасілі ў часопіс «Полымя», дзе з верасня месяца я пачаў працаваць у аддзеле прозы. Зрэдку бачыў, чуў Мележа ў гэтым выданні, больш – у Саюзе пісьменнікаў на сходах і літвечарах. На пачатку 1974 года я надрукаваў першую аповесць «Усё яшчэ наперадзе» ў часопісе «Маладосць»; Мележ паклікаў у СП (яго сумесны з А. Грачанікавым кабінецік знаходзіўся на другім паверсе былога «дома Кубэ») і пачаў гартаць тыя нумары часопіса, дзе шмат было скрэслена: вось так, малюнкамі, дэталямі, пішуце, а вось так не, бо гэта – не столькі проза, колькі публіцыстыка. Пасля параіў афармляць дакументы ў СП, куды я з лёгкай яго рукі (ён быў старшыня камісіі СП па прыёме) быў прыняты. Зразумела, я, адзін з «палымянцаў», з вялікім хваляваннем чакаў Івана Мележа напрыканцы 1976-га, калі ён меўся прынесці новы раман «Завеі, снежань», і з не меншым хваляваннем чытаў, душой ловячы кожнае Мележава слова, кожны, часамі «рублены», г.зн. кароткі, нават з аднаго слова сказ, які быў неабходны і для інтанацыі. «Завеі, снежань» былі выдатным далейшым поступам нацыянальнай школы беларускай прозы.

І нібы асляпляльны, знішчальны ўдар маланкі: 9 жніўня 1976 года Мележа не стала. Якая страшная несправядлівасць: ён пакінуў жыццё, літаратуру ў росквіце творчых сіл, непаўторным майстрам прозы. Добра запомнілася, што пры развітанні плакаў тагачасны першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў, а ў прамове намесніка старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжковай былі такія словы за жалобным сталом у Доме літаратара: «Мы ўсе, а вы, пісьменнікі, найперш, яшчэ адчуем, каго мы сёння страцілі...»

У 1978-м у «Полымя» пачаў рыхтавацца да друку працяг рамана «Завеі, снежань» – закончаныя раздзелы, накіды, планы, заўвагі. Спачатку адзін крытык-празаік падмету прапанаваць публікацыю – аўтаравы ўрыўкі і свае каментары. Пасля адмовіўся, вярнуў папку ў рэдакцыю. Сціплая пасада супрацоўніка аддзела прозы не дазваляла мне шмат ведаць, дык я спачатку не зразумеў: чаму працэс падрыхтоўкі, пачатак друкавання запавольваецца. Ды чыйго твора? Мележавага! Пасля мне было даручана абхадзіць усіх членаў рэдкалегіі і паказаць ім пакінутае Мележам з чыімісьці алоўкавымі выкрэсліваннямі. Зразумела, за ноч прачытаў усё сам і пабачыў, што насцярожыла наша (і не толькі рэдакцыйнае) кіраўніцтва. Мележ распрацоўваў новы погляд на калектывізацыю – як на з'яву паспешлівую, гвалтоўную і небяспечную для вёскі, яе гаспадароў на будучыню (і яму тады, скажам, не маглі дазволіць паказ таго, што пры «раскулачванні» у раённым доме культуры ўпотай, уночы, размясцілі ўзвод чырвонаармейцаў ці што вязуць у высылку «кулака», а ў яго з багацця самавар і больш дзесяці дзяцей). Як добра помніцца, з усіх членаў рэдкалегіі не толькі абураўся выкрэсліваннямі, але і запісаў сваю асобную думку адзін Я. Брыль. Іншыя, мабыць, не жадаючы сабе непрыемнасцей, паслухмяна ўсё адобрылі. Здаецца, не ўсё з выкрэсленага было адноўлена ў Мележавым дзесяцітомніку, дык варта ў «палымянскім» архіве адшукаць тую папку і ў новым выданні рамана «Завеі, снежань» даць цалкам тое, што было думана-перадумана і запісана аўтарам, які глыбока перажываў і за мінулы, і за сённяшні, і за будучы лёс нашай вёскі, яе насельнікаў, за вернасць літаратуры, жыццёвай і мастацкай праўдзе, гуманізму.

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

[1]Газетны варыянт. Цалкам эсэ можна прачытаць у часопісе «Полымя» (№ 2 за г.г.)

# Сказ пра Багародзіцкую царкву ў вёсцы Старое Сяло

**Некалькі стагоддзяў запар Старасельская Свята-Раства-Багародзіцкая царква, якая існавала ўжо ў XV стагоддзі, была цэнтрам культурна-рэлігійнага жыцця нашага краю. Існуе паданне, што землі, на якіх знаходзілася гэтая царква, у 1566 годзе належалі полацкаму ўладыку, і княгіня Сафія Раманава, жонка віцебскага гараднічага, ездзіла сюды маліцца з суседняй вёскі Старое Сяльцо, бо там царквы не было. Ля царквы былі могілкі, дзе хавалі святароў і багатых людзей гэтага прыходу.**

Царква была пабудавана ў стылі народнага драўлянага дойлідства. Знадворку і ўнутры была ашалявана дошкамі і пафарбавана. Храм меў наступныя памеры: вышыня з двух'яруснай званіцай 5 сажняў (сажань – 2,1 м), шырыня – 4 сажні, вышыня да карнізу – 3 сажні. Над сярэдзінай бляшанага даху зялёнага колеру ўзвышаўся купал. Храм меў чатыры вялікія вокны і адны дзверы. Іканастас быў памерам 2,5 х 2 сажні.

Старыя людзі казалі, што ў храме было багата абразоў, самы прыгожы з іх – ікона «Ефрасіння Полацкая», аздобленая пазалочанай рамай. Быццам бы гэтыя іконы для царквы набыў падрадны Тарасаў, які працаваў на будаўніцтве чыгункі Віцебск–Полацк у 1865–1866 гадах. Па яго віне, як ён сам лічыў, у кар'еры загінуў адзін рабочы. Тарасаў, каб замаліць гэты грэх, набыў святыя абразы, а яго жонка ўпрыгожвала храм і спявала ў царкоўным хоры.

Непадалёк ад храма ў 1855 годзе адкрылася народнае вучылішча, дзе выкладаў «Закон Божы» святар гэтай царквы. Самым вядомым святаром у канцы XIX – пачатку XX стагоддзя быў Антоні Іаанавіч Пакроўскі, які вызначыўся сваёй адукаванасцю, высокім культурным узроўнем і дабрынёй.

У школе выкладчыкамі былі спачатку яго жонка Надзея Іванаўна Пакроўская, а пасля іх дачка Анастасія.

Багародзіцкая царква праіснавала да 1903 года. Тады ж на сродкі прыхаджан і мясцовага пана, генерала ад кавалерыі І.А. Андрыянава, была пабудавана новая цагляная царква, якую назвалі Узвасрэсенскай. Старая была зачынена з-за аварыйнага стану. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі царкву разабралі, на яе месцы пабудавалі інтэрнат для студэнтаў ткацкага вучылішча. Могілкі зруйнавалі, помнікі заклалі ў падмурак інтэрната, мясцовасць разараўнялі. І засталіся на гэтым астраўку толькі ліпы ды бэз. Гэтыя сведкі мінуўшчыны жывуць і цяпер.

Царквы не стала, як не стала і могілак, але засталіся ўспаміны старых людзей ды легенды, звязаныя з гэтым месцам.

***М. ЮШКЕВІЧ, Віцебскі раён***



*Царква Покрыва Прасвятой Багародзіцы ў Віцебску*





*Уздзенская Цэнтральная раённая бібліятэка імя Паўлюка Труса мае вялікі вопыт па зборы матэрыялаў і прапагандзе творчасці пісьменнікаў-землякоў. Асобе Кандрата Крапівы, як творцу, вядомаму ва ўсім свеце, як грамадскаму дзеячу, навукоўцу, чыё 110-годдзе з дня нараджэння мы адзначаем у гэтыя сакавіцкія дні, адводзіцца асобае, пачэснае месца.*

# Жыве між нас Крапівінскае слова

Ёсць на Уздзеншчыне непаўторны па сваёй прыгажосці і гістарычным лёсе куточак – вёска Нізок. Яе акаляюць грыбныя лясы, рэчка Вуса, за кожным звілістым паваротам якой адкрываюцца цудоўныя краявіды. Вёска захавала сляды даўніны – незвычайнае архітэктурнае аблічча, якое бярэ свой пачатак з 1557 года. Тады ў выніку праведзенай зямельнай рэформы была прынята так званая «Устава на валокі». Згодна з ёй, вуліцу пракладвалі пад шнур і з аднаго боку ставілі жытло, а па другі – гаспадарчыя будынкі. Такая сельская забудова на Беларусі да нашага часу захавалася ў адзінкавых населеных пунктах, у тым ліку і ў Нізку.

Алесь Махнач, пісьменнік, аўтар краязнаўчага нарыса «Нізок», які выйшаў у 1998 годзе ў серыі «Ведаць свой край Беларусь», пісаў: «Калі б адзначалі ордэнамі вёскі, людзі якіх унеслі значны ўклад у абарону Айчыны, развіццё літаратуры, культуры, мастацтва, сельскай гаспадаркі, дык невялічкі Нізок, што на Уздзеншчыне, не мінула б такая высокая пашана. Тут у любую хату зойдзеш – вучонага, пісьменніка знойдзеш. Так гавораць многія». І сапраўды, Нізок падараваў свету шмат славутых імёнаў, якія праславілі Радзіму. Сярод іх – Кандрат Крапіва, народны пісьменнік Беларусі. Самабытнасць і шматграннасць таленту, сапраўды народны характар творчасці даюць усе падставы аднесці Крапіву да самых вядомых прадстаўнікоў культуры.

Мінаюць гады, на змену аднаму пакаленню прыходзяць іншыя, са сваімі поглядамі, ідэаламі. Апошнія дзесяцігоддзі шмат чаго перакрэслілі, заштурхнулі ў дальнія куткі памяці. Як бібліятэкар, з болем сачу за тым, што са школьных праграм зніклі многія імёны беларускіх пісьменнікаў... І ніколі не паверу, што такое можа здарыцца з Кандратам Крапівой. Лічу адказнымі за гэта і нас, бібліятэкараў. Чаму? Таму што бібліятэкі, як захавальніцы нацыянальнай памяці, павінны ўсведамляць: згубіць лёгка, знайсці – значна цяжэй.

Супрацоўнікі Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса (дарэчы, таксама ўраджэнца в. Нізок), робяць шмат чаго, каб творчасць і імя нашага славутага земляка жылі ў вяках. Гэтаму садзейнічала пошукава-творчая экспедыцыя «Уздзеншчына літаратурная», якая доўжылася не адзін год. Праведзена шмат сустрэч з мясцовым насельніцтвам, наладжаны кантакты з пісьменнікамі-землякамі, сваякамі і блізкімі знакамітых людзей Уздзеншчыны. І вынік – сабрана багатая калекцыя краязнаўчых матэрыялаў, сярод якіх значную частку займаюць творы Кандрата Крапівы, гады выдання якіх пазначаны 1934–2004 гг., успаміны аб ім. Кожны набыты матэрыял мае сваю гісторыю, свой шлях. Асабліва дарагія нам кнігі, якія бібліятэцы падарыў сам Кандрат Крапіва. Гэта зборнікі баек «Пучок жыгучкі», «Смех і гнеў», «Выбраныя п'есы», зборнік «Драмы і камедыі» і інш. Рарытэтам бібліятэкі з'яўляюцца «Выбраныя творы» ў 2 тамах, выдадзеныя ў 1986 г., на якіх пісьменнік пакінуў, магчыма, свае апошнія аўтографы. А гісторыя з'яўлення гэтага выдання ў бібліятэцы наступная: у жніўні 1989 года на адно з пасяджэнняў краязнаўчага клуба «Бацькаўшчына», што працуе пры раённай бібліятэцы, была запрошана пляменніца Кандрата Крапівы Людміла Іванаўна Спірыдовіч, якая ў гэты час адпачывала ў роднай вёсцы Нізок. Шчырая размова, чытанне баек Крапівы, успаміны аб ім, і на развітанне – просьба перадаць Кандрату Кандратавічу прывітанне ад землякоў, пажаданне здароўя, бадзёрасці. Мо тады тым-сім удзельнікам сустрэчы здалося, што гэта дзяжурныя словы ветлівасці. Аднак, праз некаторы час, да нас зноў завітала Людміла Іванаўна, яна перадала падзяку ад Кандрата Кандратавіча за прывітанне, і яшчэ – кнігі. Разгарнуўшы іх, мы ўбачылі аўтографы пісьменніка. Людміла Іванаўна патлумачыла: «Нямоглы ён ужо, рукі дрыжаць, але папрасіў мяне, каб я выразна правяла рысу, паверх яе паставіў свой подпіс і дадаў: нахай застанецца маім землякам на памяць». Дата гэтага аўтографа 20 верасня 1989 года. А 7 студзеня 1991 года Кандрата Крапівы не стала.

Уздзеншчыну часта называюць краем творцаў і маюць на ўвазе не толькі мінулыя часы. Сённяшняе літаратурнае асяроддзе Уздзеншчыны – раённае літаратурнае аб'яднанне «Нёманец», якое каля дваццаці гадоў працуе пры Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса і рэдакцыі раённай газеты «Чырвоная зорка». Гэтае аб'яднанне таксама ўносіць свой уклад ва ўвекавечванне імя славутага сатырыка і байкапісца. Пачынаючы з 1996 года, калі адзначаўся 100-гадовы юбілей К. Крапівы і калі ў раёне прайшоў Першы абласны фестываль нацыянальнай байкі, па ініцыятыве літаб'яднання праводзяцца конкурсы на лепшы сатырычны твор паміж мясцовымі аўтарамі пад дэвізам «Жыве між нас Крапівінскае слова». Наступныя конкурсы прымяркоўваліся да знамянальных падзей, звязаных з творчым шляхам Крапівы. Так, у 1999 годзе прайшоў конкурс «Свінтус-грандыёзус–99» – да 60-годдзя напісання камедыі «Хто смяецца апошнім», у 2002 годзе – «Пасмяёмся разам» – да 80-годдзя з пачатку творчай дзейнасці пісьменніка. Не раз ужо паказалі сябе майстрамі трапнага сатырычнага слова Мікола Кароль, паэт, зямляк К. Крапівы, нізаўчанін; Мікола Старавераў з в. Магільна, Віктар Сабалеўскі, кіраўнік літаб'яднання, рэдактар раённай газеты, Тамара Каляда, супрацоўніца «Беларусбанка». Літаратурна-краязнаўчая праца ў 2005 годзе, годзе Вялікай Перамогі, таксама была звязана з творчасцю знакамітага пісьменніка. У гэты час бібліятэка працавала над стварэннем Кутка Памяці, афармляла шэраг тэматычных паліц і кніжных выстаў ваеннай тэматыкі. На адной з іх пачэснае месца займала экспазіцыя, прысвечаная Кандрату Крапіве, дзе былі размешчаны выдадзеныя ў ваенныя гады кнігі пісьменніка, фотаздымкі, газета «Раздавім фашысцкую гадзіну», рэдактарам якой быў Крапіва. У гэтым жа годзе быў створаны электронны фотаархіў К. Крапівы, значную частку матэрыялаў для якога прадставіла Л.І. Спірыдовіч.



*К. Крапіва ў 1925 годзе сярод удзельнікаў пленума цэнтральнага бюро «Маладняка»*

Карпатлівая праца вядзецца бібліятэкарамі па зборы матэрыялаў пра К.К. Крапіву з перыядычных выданняў розных часоў. Усе яны, у асноўным першакрыніцы, толькі нязначная частка ксеракопій, афармляюцца ў тэматычныя папкі, уводзяцца ў краязнаўчы каталог. Біябібліяграфічныя звесткі пра пісьменніка маюцца ў электроннай базе «Памяць Міншчыны», якая ствараецца па ініцыятыве Мінскай абласной бібліятэкі імя А.С. Пушкіна.

***Не згасне зорка Кандрата Крапівы. З 1 лютага аб'яўлены чарговы раённы конкурс на лепшы сатырычны твор, з 26 лютага 2006 года да дня нараджэння пісьменніка 5 сакавіка наша бібліятэка праводзе Крапівінскі тыдзень, у плане якога шэраг кніжных і фотавыстаў, літаратурная вечарына, выступленне па мясцовым радыё, пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Нёманец», творчая сустрэча з супрацоўнікамі часопіса «Вожык», рэдактарам якога працяглы час быў К. Крапіва, а ў маі плануецца правесці Другі фестываль нацыянальнай байкі.***

*Клаўдзія РОГАВА,*
*дырэктар Уздзенскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы*

**Наш каляндар**

## Кандрату Крапіве – 110



***К. Крапіва (Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 05.03.1896, в. Нізок Уздзенскага раёна – 1991) – беларускі паэт, драматург, празаік, мовазнавец, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1956), акадэмік АН Беларусі (1950), Герой Сацыялістычнай працы (1975).***

Экстэрнам здаў экзамены на званне народнага настаўніка (1913), настаўнічаў, з 1915 па 1917 на Першай сусветнай вайне, у 1920–1923 гг. у Чырвонай Арміі. Працягваў працаваць настаўнікам (1918–1920, 1924–1925). У 1925–1926 гг. быў супрацоўнікам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, у 1932–1936 гг. – часопіса «Полымя». Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939-м, савецка-фінляндскай вайны 1939–1940-х. У час Другой сусветнай вайны працаваў у розных газетах, пасля вайны да 1947 г. рэдагаваў «Вожык». Затым лёс свой звязаў з АН Беларусі, дзе з 1956-га па 1982-гі быў віцэ-прэзідэнтам.

Першы верш-фельетон надрукаваў у 1922 г., першыя кнігі «Асцё» і «Крапіва» пабачылі свет у 1925 г. Яго шматлікія байкі, фельетоны, сатырычныя паэмы, што высмейвалі забабоны, кар'ерызм і прыстасавальніцтва, прынеслі яму шырокую папулярнасць. Адметнымі сталі і апавяданні, раман «Мядзведзічы» (1932; незакончаны), навуковыя працы па мовазнаўстве. З сярэдзіны 1930-х К. Крапіва пачынае засвойваць жанр драматургіі і дасягае вялікага поспеху – асабліва камедыяй «Хто смяецца апошнім» (пастаноўка 1939, Сталінская прэмія 1941), дзе на поўную моц высмейваў такія негатыўныя з'явы, як паклёпніцтва і кар'ерызм, што працвіталі ў 1930-я гады.

У вайну таксама выступаў у розных жанрах: байкі, памфлеты, п'еса «Проба агнём», вершаваныя фельетоны, накіраваныя супраць фашызму. Махляроў, хто ўхіляўся ад барацьбы з імі, выкрыў у п'есе «Мілы чалавек», ды так рашуча і рэзка, што яе доўгі час асцерагаліся выносіць на сцэну. З іншых шматлікіх драматургічных твораў выдатнай з'явай стала фантастычная камедыя «Брама неўміручасці» (1973, Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Я. Купалы 1974), скіраваная супраць спажывецтва, абывацельшчыны. Адзін з аўтараў руска-беларускага і беларуска-рускага слоўнікаў. У 1971 г. атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР за ўдзел у комплексе работ па беларускай лінгвагеаграфіі. У 1974–1976 гг. выйшаў ягоны «Збор твораў» у 5 тамах.

*Смех і горыч*

### Кажух

*Хадзілі па вёсках краўцы-яўрэі і шылі гаспадарам кажухі за стол і невялікую плату. Зайшоў такі да майго дзеда, які жыў каля Друі, і padрадзіўся справіць яму абноўку. Зняў мерку, ноч страчыў на машынцы, раніцай дае гатовы заказ. А кажушок аказаўся такі, што толькі дзіцёнку налезе і то не кожнаму. Пакруціў дзед яго туды-сюды і так асцярожна прапаноўвае:*

*– Абрамка, бяры ты сабе яго замест платы...*

*– Слухай, а мне не абідна? – кажа кравец пакрыўджана.*

***Запісана ад Дзіны Ваштаевіч, в. Едлавічы***

### Кумпякі

*У вёсцы Едлавічы павесіў на дзверы мужык сушыць два кумпякі, каб потым іх павэндзіць. І раптам – у хату завальвае цэлы гурт цыганоў з гармонікам. Танцуюць, спяваюць, цягаюць за рукаў. Гаспадар нічога не разумее, а тут яшчэ цыганёнак забягае і таксама ўпрысядку з дзіўнай прыпеўкай: «Ой, высока – не дастану, ой, высока – не дастану...» А стары цыган з гармонікам – яму ў адказ: «Не падставіш – не дастанеш, не падставіш – не дастанеш!»*

*Цыганёнак – шась за дзверы і праз пару хвілін назад і зноў у скокі: «Як падставіў – так дастаў! Як падставіў – так дастаў!»*

*Тут артыстаў і след прастыў. Выйшаў потым мужык на двор – а кумлякоў і няма...*

***Запісана ад Елісея Бунты, в. Пагошча***

*(Паводле часопіса краязнаўцаў Браслаўшчыны «Павет»)*

# Лялечныя вобразы і персанажы
## ў беларускіх рэгіянальных строях мінуўшчыны

***У кастрычніку мінулага года ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь экспанавалася выстаўка «Лялечны дом». Экспазіцыя складалася з лялек розных памераў, апранутых у строі сацыяльных сасловаў перыяду ВКЛ і пазнейшага часу. Выстаўка выклікала станоўчы рэзананс, бо лялькі прадстаўлялі вобразы і строі беларускіх князёў, магнатаў, шляхты, сялянства, гараджан. У аснове выстаўкі – дыпломныя праекты і курсавыя працы студэнтаў дзённай і завочнай формы навучання кафедры мастацкай і педагагічнай адукацыі факультэта народнай культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.***

Пасля Мінска, дзякуючы разуменню кіраўніцтва Нясвіжскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея, выстаўка пераехала ў Нясвіж. Гэты горад у сярэднявеччы і пазнейшы час быў заканадаўцам развіцця культуры і строю.

Выкладчыкі і студэнты на чале з дэканам факультэта аўтобусам адправіліся ў Нясвіж. Снежаньскі дзень быў на дзіва прыгожым. Зямля, аздобленая густой шэранню і падсвечаная зімовым сонцам, ствярала чароўныя казачныя краявіды.

Прыехалі ў Нясвіж. Гаспадары ветліва сустрэлі. Усіх прыемна здзівіў будынак музея і экспазіцыя выстаўкі нашых лялек, над якой шчыравалі навуковыя супрацоўнікі – намеснік дырэктара В.У. Шкрабіна, Т.І. Рудзянок і іншыя. Разам з намі ўзрушана суперажывалі за поспех выстаўкі і намеснік дырэктара каледжа імя Якуба Коласа А.В. Жураўлёва, выкладчыкі Л.В. Карачун, І.Я. Пунтус, выпускнікі каледжа і навучэнцы III курса, якія маюць непасрэднае дачыненне да выяўленчага мастацтва.

З прывітальным словам выступіў дэкан факультэта Міхаіл Круталевіч. Ён адзначыў, што грамадскасць Нясвіжа вельмі добра супрацоўнічае з універсітэтам і зацікаўлена ў сустрэчах. Міхаіл Міхайлавіч засяродзіў увагу на тым, што мы павінны ведаць гісторыю нашага краю, ствараць вобразы ў рэгіянальных строях і ўзоры строяў у натуральную велічыню.

Працягнуў сустрэчу загадчык кафедры Георгій Лойка – сябра Саюза мастакоў Беларусі. Расказаўшы пра поспех выстаўкі ў Нацыянальным мастацкім музеі, ён падкрэсліў значнасць гэтай падзеі для беларускай культуры і краязнаўства краіны. Ён заўважыў, што гэта толькі частка таго, што робіцца на кафедры. Толькі па спецыялізацыі народных рамёстваў развіваецца 9 накірункаў: кераміка, роспіс, вышыўка, ткацтва, саломапляценне, габелен, мастацкая апрацоўка скуры, вязанне, лапікавая тэхніка і касцюм (строі).





Старшы выкладчык Вольга Дамасевіч паказала і расказала навучэнцам каледжа і ўсім прысутным пра сам працэс стварэння лялек, як збіраецца гістарычны матэрыял, а таксама матэрыял, з якога вырабляюцца строі. Наталля Кананові́ч, сябра Рады народных майстроў, гэтак жа цікава расказала пра тэхналагічныя асаблівасці, прыёмы народнага ткацтва. Выкладчык Святлана Зяцікава, нядаўняя выпускніца універсітэта, ахвотна падзялілася сакрэтамі, вопытам і ўменнем вышыўкі асобных элементаў лялечных строяў. Студэнткі IV курса расказалі пра свой вопыт збірання рэгіянальных матэрыялаў для стварэння лялечных строяў, тэхналогію вырабу лялек. Майстар-клас тэарэтычна-практычнага накірунку, мяркуючы па настрої абодвух бакоў, быў вельмі карысным для ўсіх.

Удзячныя гаспадары ахвотна пазнаёмілі нас яшчэ і з пяццю стацыянарнымі экспазіцыямі музея, у якіх прадстаўлена этнаграфія беларускіх вёсак, рамёствы, легендарнае і гістарычнае Нясвіжскай зямлі.

Прыемна было бачыць гонар гаспадароў за свой музей. Асабліва гэта адчувалася ў асобе дырэктара – апантанай, энергічнай энтузіясткі, прывабнай, валявой і вясёлай Іны Піваварчык. Гэтакія ж – яе намеснік Вольга Шкрабіна і іншыя супрацоўнікі музея.

***Яўген АДАМОВІЧ, г. Мінск***

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВАЙНА РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ З РАСІЯЙ 1609–1618 гадоў** – вайна за вяртанне ВКЛ Смаленскай зямлі і за ўтварэнне федэрацыі Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай. Жадаючы пазбавіцца ад цара В. Шуйскага, баярская апазіцыя таемна прапанавала царскую карону сыну польскага караля і далучыць Расію да Рэчы Паспалітай як члена федэрацыі. У верасні 1609 г. пачалася аблога Смаленска, але ён быў узяты толькі ў чэрвені 1611 г. Войска Рэчы Паспалітай, разбіўшы царскую армію, падыйшло да Масквы, што паспрыяла там перавароту. В. Шуйскі быў скінуты, царом абвешчаны каралевіч Уладзіслаў. У верасні 1610-га войскі Польшчы і ВКЛ занялі Маскву. У 1612-м рускае апалчэнне на чале з Мініным і Пажарскім вызваліла яе. У лютым 1613 г. рускім царом быў абраны 16-гадовы Міхаіл Раманаў. У 1617–1618 гг. новы паход войска Рэчы Паспалітай на Маскву поспеху не прынёс.

**ВАЙНА РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ СА ШВЕЦЫЯЙ 1600–1629 гадоў** – вайна за панаванне на Балтыйскім моры. У 1600-м пачалося заваяванне Эстляндыі (у баях вызначыліся гетман Я. Хадкевіч і камандуючы конніцай Я. Сапега). Пасля баёў 1609 г. вайна перапынілася на 8 гадоў. У 1621-м аднавілася і пайшла з пераменным поспехам. Пасля заключанага ў верасні 1629 г. міру большасць балтыйскіх партоў і ўся Ліфляндыя да Заходняй Дзвіны пераходзілі да Швецыі. У складзе Рэчы Паспалітай засталіся парты Каралявец (Кёнігсберг), Гданьск і Пуцк.

**ВАЙНІЛОВІЧЫ** – шляхецкі род. Ёсць меркаванне, што паходзяць ад Вайнілы, які жыў у канцы XIV ст. Нашчадкі займалі розныя пасады ў адміністрацыі ВКЛ, мелі зямельныя надзелы ў Мазырскім, Пінскім, Навагрудскім, Слуцкім паветах.

**ВАЛАДАР ГЛЕБАВІЧ** – князь менскі, па іншых звестках – і гарадзецкі, 2-й пал. XII ст. Сын першага вядомага менскага князя Глеба Усяславіча, унук славутага Усяслава Чарадзея. Прадаўжаў бацькавы намаганні па ўмацаванні Менскага княства ў Полацкай зямлі.

## Сусветны дзядзінец

**1316–1341 гг.** Час уладарання вялікага князя ВКЛ Гедзіміна, які даў пачатак княскаму роду Гедзімінавічаў.

**1538.** Знакаміты ўрач эпохі Адраджэння Парацэльс патэнтуе мыла і падае яго як панацэю, выратаванне ад чумы.

**1768.** Са старых палацавых сурвэтак і абрусаў выпускаюцца першыя рускія папяровыя грошы.

**1799.** Брытанскі прэм'ер-міністр упершыню ў свеце ўводзіць падаходны падатак.

**1814.** Напалеон адмаўляецца ад трона і едзе ў ссылку на востраў Эльба.

**1959.** Прэзідэнт ЗША фармальна аб'яўляе даўно набытую ў Расійскай імперыі Аляску 49-м штатам краіны.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары дасылаюць у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 09.03.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02.2004 г.)
Заказ 413.
Тыраж 1560.